# ДУМКІ й ПАГЛЯДЫ



Дадатак да «Беларускага Сьвету», № 2.



## Памёр Др. Янка Садоўскі

Вестка пра сьмерць Янкі Садоўскага напоўніла мяне глыбокім сумам і даўнімі ўспамінамі. Мы-ж землякі — нават нашыя бацькі былі знаёмымі...

Прыпомнілася Настаўніцкая сэмінарыя ў Нясьвіжы, дзе мы вучыліся (1943-1944 гг.) й разам кватэравалі — сьпярша ў хаце Пятра Ярашэвіча, пазьней ў доме Штраўса.

Прыгадаліся даўгія вечары, калі Ярашэвіч і стары Штраўс апавядалі нам розныя легенды пра Нясьвіжскі замак і князёў Радзівілаў.

Разам зь нябожчыкам Янкам выходзіў я й на эміграцыю.

Пазьней дарогі нашыя разышліся, але мы заўсёды трымалі пісьмовую сувязь і тагды, калі Янка быў у Лёндане, і тагды калі ён студыяваў тэалёгію ў Рыме.

Апошні раз спаткаўся я зь Янкам у Дэтройце на нейкай Унівэрсытэцкай канфэрэнцыі.

Жыцьцё сьв. пам. Янкі ня было салодкае, але ён заўсёды заставаўся верным сынам свайго беларускага народу, які ён так шчыра любіў.

Вечная табе памяць, дарагі Янка!

Твой верны сябра — Мікола П.

Гэты выпуск нашага часопісу «Беларускі Сьвет», у сваёй большай частцы сфінансавала нябожчыца Анна Панютыч. За гэта ёй належыцца вялікая й шчырая падзяка.

Анна Панютыч нарадзілася недзе каля Картуз-Бярозы на Палесьсі й пражыла на гэтым сьвеце 82 гады. Была яна сьведамаю Беларускай і жыцьцярадаснаю ды вельмі гасьціннаю асобаю.

Вечная ёй памяць!

— * —

...У рэлігійных справах Беларусам папросту й не вязе й ня клеіцца. Узяць-бы для прыкладу хоць беларускую каталіцкую праблему.

Пасьля сьмерці сьв. пам. біскупа Ч. Сіповіча, беларуская каталіцкая справа значна заняпала. Якая шкода, што так сталася! Усе Беларусы добра ведаюць, што нябожчык Сіповіч быў вялікім беларускім і каталіцкім дзеячом і зрабіў значны ўклад у беларускую культуру. Шырэй вызначыцца на рэлігійнай ніве Яму скрыта й неразумна перашкаджалі палякі, аб чым Беларусы павінны ведаць і заўсёды памятаць.

Палітыка Ватыкану адносна Беларусаў заўсёды вызначалася сьлепатою, дурнатою й загадковасьцяй. Таму Беларусы да біск. Ч Сіповіча ня мелі сваіх каталіцкіх герархаў і, відаць, па сьмерці біск. Сіповіча іх ня будуць мець ізноў.

Ці-ж ня дзіўна ўсё гэта выглядае ведаючы, што Беларускі народ мае сваіх 4-ох касманаўтаў (у іх ліку й польскі касманаўт, бо нарадзіўся ён на Беларусі); мае ведамых спартоўцаў, як В. Корбут, М. Мядзьведзь ды інш.; мае вялікіх літаратараў, вучоных, кампазытараў ды ведамых палітыкаў... але, ня мае ніводнага беларускага каталіцкага біскупа.

Некалі мой дзед няраз паўтараў старую беларускую прыказку: «Няма таго дрэннага, каб ня выйшла на добрае».

Хочацца верыць, што і ў гэтым выпадку так станецца.

М. С.



**Падпісвайцеся на:**

## ЗБОР ТВОРАУ МІХАСЯ КАВЫЛЯ

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва пачаў працу над выданьнем твораў ведамага беларускага нацыянальнага паэта й пісьменьніка Міхася Кавыля. Збор твораў М. Кавыля будзе абыймаць ягоную паэзію й прозу, крытычна-аналітычны агляд творчасьці, біяграфію, бібліяграфію й ліставаньне.

Гэтае акадэмічнае выданьне станецца, бясспрэчна, каштоўным укладам у беларускую нацыянальную літаратуру. Дарэчы, уклад М. Кавыля ў беларускую літаратуру й дасюль выдатны — Кавыль першы ў беларускай паэзіі, хто стварыў вянок санэтаў, а таксама першую і адзіную тымчасам у нас карону санэтаў.

Як і ўсё папярэднія літаратурныя выданьні Інстытуту, таксама й выданьне твораў Міхася Кавыля разьлічанае на фінансавае падтрыманьне яго з боку беларускага грамадзтва. Для належнага выданьня кнігі, канечна патрэбная дапамога беларускага грамадзтва, і ўправа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва зьвяртаецца да ўсіх з просьбай падтрымаць гэтае важнае выданьне, перасылаючы падпіску ці ахвяру на друк кнігі. Кошт падпіскі — 20 амэрыканскіх даляраў.

Чэкі просіцца выпісваць на:

Byelorussian Institute of Arts and Sciences
230 Springfield Ave.
Rutherford, N. J. 07070
U. S. A.



**Наступнае выданьне нашага часопісу заплянавана на весну 1983 году. Матэрыялы ў часопіс просім перасылаць не марудзячы.**

* *

Апошнім часам я даволі часта атрымліваю лісты з пытаньнем: колькі-ж, нарэшце, каштуе «Беларускі Сьвет»? Устанаўляць цану за часопіс я не сьпяшаўся, але, здаецца, надыйшоў час, каб гэтую справу неяк выясьніць. Думаў я й так і сяк, але канчаткова дайшоў да

пераканаяньня, што мабыць трэба вызначыць цану часопісу спосабам параўнаньня...

Дык вось, зайшоў я ў бар-карчму сярэдняе катэгорыі й заказаў чарку «гары». Цана — 1.50. Кульнуў я гэтую чарку й падумаў: няўжо-ж мой часопіс ня варты 2 чаркі водкі?! Бясспрэчна варты! Вось таму й цана «Беларускага Сьвету» ўстанаўляецца на **3 даляры.**

Калі-ж нехта скажа, што «Беларускі Сьвет» ня варты 2-ух чарак водкі, дык лепш няхай яго ня чытае...

Кажу я ўсё гэта быццам жартам, але таксама і ўсурёз.

— * —

Ці можна прыслаць у часопіс да друку даволі тоўстую працу?

Так, можна. Пастарайцеся толькі, каб гэтая «тоўстая праца» была прызваіта апрацаваная з граматычнага боку гледжаньня...

— * —

## Пра Выданьне Беларускае Эміграцыйнае Спадчыны

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва пачаў нарэшце выдаваць, хоць крыху спозьнена, творы літаратурнае спадчыны беларускае эміграцыі. Да гэтага часу выйшла два томы паэзіі, а трэйці ўжо рыхтуецца. Выглядае, што й далей беларуская эміграцыйная паэзія будзе займаць у выдавецкай дзейнасьці гэтага Інстытуту вядучую пазыцыю. Усё гэта вельмі добра й пахвальна.

Але-ж на эміграцыі тварылі культурныя скарбы ня толькі адны паэты. Былі-ж і кампазытары, і публіцысты, і навукоўцы, і празаікі, і розныя іншыя мастакі. Творы гэтых культурнікаў параськіданыя па розных часопісах, зборніках, газэтах ды асобных кніжках. Возьмем для прыкладу двух выдатных і ведамых нашых кампазытараў: Міколу Шчаглова-Куліковіча й Міколу Равенскага. Калі першаму зь іх, павязло выдаць некалькі зборнікаў песенных ды музычных твораў, дык другому — М. Равенскаму вымоўна не пашчасьціла. Праўда, меўся выйсьці ягоны песенны зборнік некалі яшчэ ў Бэлгіі, але нехта справу гэтую ганебна «заваліў». Якая шкода. Трэба спадзявацца, што можа хоць захаваўся архіў ягонай музычнай творчасьці.

Памерлі гэтыя заслужаныя творцы беларускае песеннае красы, і спадчына іх памаленьку пылам забыцьця пакрываецца.

Ці-ж ня варта было-б Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва пашырыць сваю выдавецкую дзейнасьць і пачаць рыхтаваць да выданьня музычную творчасьць Міколы Шчаглова-Куліковіча й Міколы Равенскага ў добра апрацованых тоўстых аднатомніках. Здаецца, на Захадзе яшчэ жывуць музыказнаўцы й спэцыялісты ў гэтай галіне мастацтва, якія маглі-б падрыхтаваць такія зборнікі гэтых талентавітых і папулярных беларускіх эміграцыйных кампазытараў.

Гэтае самае можна сказаць і пра ўсіх іншых беларускіх культурнікаў.

Напэўна нехта захоча заўважыць, што справа гэтых выданьняў ня так лёгкая й простая, як выглядае на першы пагляд, бо беларуская эміграцыя ня грэшыць культурным зацікаўленьнем. Абросшы дабрабытам, далей свайго «пуза» яна нічога бачыць ня хоча. Заўвага да-

волі арыгінальная. Але трэба таксама ведаць, што ўсё-ж беларуская эміграцыя мае душу й добрае сэрца, і калі Беларускі Інстытут захоча папрасіць матэрыяльнае й маральнае дапамогі — беларуская сьведамая і ідэйная эміграцыя ў даўгу не застанецца. Даказваць гэта, хіба, няма патрэбы. Добра было-б пачуць іншыя думкі на гэтую тэму.

Ш.

— * —

...Зьмясьцеце, калі ласка, у «Дадатку» маю кароткую заўвагу адносна вашага часопісу.

Часопіс «Беларускі Сьвет» агульна мне да спадобы, але было-б шмат лепш, каб заміж перадрукаў, хоць заўсёды вельмі цікавых, зьмяшчаць творы нашых эміграцыйных аўтараў. Графічнае афармленьне нядрэннае, але ізноў-жа агульны зьмест часопісу мог-бы быць лепш дабраным. Мяне цешыць факт, што часопіс стала й пасьлядоўна «таўсьцее» — зьява на эміграцыі вельмі рэдкая, бо заўсёды наглядаецца працэс адваротны... А можа часопіс у меру патаўсьцеўшы пачне нарэшце выдавацца, скажам, тры разы ўгод?

К.

Можа зьмесьціце ў «Дадатку» гэтую цікавую байку Уладзіміра Корбана? Над зьместам гэтае байкі варта глыбока задумацца...

Хто плошчаю ішоў, зьвяртаў на дом увагу:
Чысьцюткі, сьветлы — прыгажосьць!
Усё ў ім ёсьць,
Усё няблага.
«Шчасьлівыя!» — заўсёды жыхаром
Зайздросьцілі прахожыя, вядома.
Ня ведалі яны, што выгляд дому
Зусім ня гэткі са двара:
Ашарпаны, даўно не фарбаваны,
Па сьценах сквозь чарнеюць пісягі.
І двор благі —
Засьмечаны ён, не прыбраны,
Усюды гразь, памыі, хлам.
Сам чорт паломіць ногі там.

---

Так іншы й чалавек, нібы й адукаваны,
Але ў душу яму ты не залазь, —
Там гразь.

— * —

Карыстаючы з добрае нагоды, віншую гэтым усіх дарагіх чытачоў часопісу «Беларускі Сьвет» са сьвятамі Калядаў ды жадаю ўсім Шчасьлівага й Багатага Новага — 1983 — Году!

Мікола Прускі.

---

Артыкулы ў «ДУМКІ й пагляды» ня могуць быць доўгімі ды абы якімі. Ананімных дапіскаў да друку ня прымаем.